Кніжня для моладзі № 2

# Беларускія (крывіцкія) казкі № 1



## Каваль, зьмеj, рымша

№ 2 КНІЖНЯ ДЛЯ МОЛАДЗІ. № 2

БЕЛАРУСКІЯ (КРЫВІЦКІЯ) КАЗКІ.

КНІЖКА 1-ая



# КАВАЛЬ. ЗЬМЕЙ РЫМША

ВІЛЬНЯ о о о о о о о 1929 ГОД.

## КАВАЛЬ.

У якімсь гаспадарсьцьве быў калісь вялікі голад, ня было чым жывіцца ня толькі статку, але j людзём. Наелі яны j тоj корм, што жывілася жывёла. Вось паміраюць людзі з голаду, бы аб восень мухі. Але адны паміраюць, а другія родзяцца. І чым горшы голад, тым балеj родзіцца дзяцеj. І вялеў цэсар забіваць малыя дзеці, каб ня множыліся людзі, бо j гэтым нямаш чаго есьці. Вось ходзяць цэсарскія слугі дыj забіваюць дзеці або топяць jіх у раццэ, бы шчаняты. Плачуць, убіваюцца маткі, ломяць руццэ ды рвуць на сабе косы. Ведама, маткам заўсюды дзяцеj шкада. Але цэсарскія слугі ня маюць літасьці, — забіваюць дзеці, льлюць анельскаю кроў.

Вось у тым гаспадарсьцьве тады жыла сабе адна жанчына. Яна мела радзіці дзяцё, як яе гаспадара забралі ў маскалі. Баjіцца яна, каб цэсарскія слугі не забілі еjнага дзіцяці. Што тут рабіці? Куды тут схаваць дзіця, як яно родзіцца? Думала яна, думала дыj надумалася. Надрала гэта яна полак, наклала ў лубянку, закінула яе на плечы дыj паjшла ў лес.

Ведама, лес вялікі — нямаш яму ні канца, ні краю. Жыві ў jім хоць век, — ніхто ня трапіць. Вось jідзе тая маладзіца ды jдзе, назьбірае ягадаў, прагоне смагу дыj далеj. І забралася яна ў такі гушчар, што мо' там ніхто j зроду ня быў. Нагледзіла яна сабе дупляватае дзерава,

выкалупала ў jім парахню дыj зрабіла там сабе хатку. Тут непадалечку была крыніца, а ў ёj такая чыстая вада, бы сьліза. Жыве сабе ў тым дуплю маладзіца. З крыніцы п‘е ваду, а есьць ягады ды грыбы. Назапасіла яна трохі сабе грыбоў ды ягадаў, назьбірала гарэхаў ды ўсякага карэньня і чакае, пакуль прыjдзе пара. Вось сядзіць яна ў дуплю ды шые сабе сарочку.

Тымчасам выjшаў увесь запас грыбоў ды ягадаў і нямаш чымпасілкавацiся. Высунулася яна зь дзерава, узяла на плечы лубянку дыj паjшла шукаць грыбоў. Jідзе яна ды jдзе, дыj узьбілася на мядзьведжае лагво. Мядзьведзіца паjшла на жыр, а тымчасам на медзьведзяняты напаў шуляк*) і даваj jіх дзяўбаць. Абачыла тое маладзіца, — шкада ёj малых дзетак, — ухапіла яна ламачыну ды як сьперазала таго шуляка, дык ён і ногі выпруціў. Тым часам падбягае мядзьведзіца. Абачыла яна, што жанчына абратавала медзьведзяняты і дзякуе ёj: прыпадае да ног ды ліжа jіх, раве, а сьлёзы з ачоў так і цякуць. Вось паjшла маладзіца ў сваю хатку, а мядзьведзіца тым часам назіркам за ёю. Абачыла, куды ўлезла маладзіца, дыj паjшла да сваjіх дзетак. Сядзіць сабе маладзіца, перабірае грыбы ды пяе песьні. Толькі вось зірне яна, аж мядзьведзіца сунецца з кустоў проста да дупляНатага дзерава. Спалохалася маладзіца, — ня ведае, што рабіць. Тым часам мядзьведзіца падыjшла да самога дупля, прыцягла маладзіцы на лубку сьвежых плястраў мёду, палажыла тут, а сама папаўзла назад. Пабачыла тое маладзіца дыj дагадалася, што гэта мядзьведзіца ў падзяку

---

*) каршун.

дала гасьцінца. Вось жыве сабе маладзіца ў дуплянатым дзераве і бяды ня мае: мядзьведзіца кожын дзень прыцягне мёду. Потым яна пачала насіць птушыныя яйца і іншаю еміну. Але вось прыйшла пара і парадзіла тая маладзіца гожага хлопца. Зірне яна, аж у яго сьпераду на галаве сонейка, а ззаду месячык. Зьзяе сонейка, аж вочы сьлепе, нельга глядзець. Вось абвязала маладзіца галоўку свайму сынку хустачкаю ды так і ня здымае яе ні ўдзень ні ўночы. Расьце хлапчук, бы на дрожджах: што дзень то на пушку вырасьце, у вадно лецечка зраўняўся з маткаю. Тым часам насіла, насіла мядзьведзіца ім еміну а нарэсьце і сама зь медзьведзянятамі перабралася да таго дуплянатага дзерава дый зрабіла каля яго сабе лагво. Гуляе сабе хлапчук із медзьведзянятамі, сядзе на іх конна дый езьдзе, бы на каню. Да восені медзьведзяняты зраўняліся з маткаю і пайшлі самі шукаць еміны. Тады хлапчук давай езьдзіць на мядзьведзіцы. Спадабалася яму гэта. Вось пасадзе ён на мядзьведзіцу сваю матку, ускоча сам і давай гайсаць па лесе.

Гэтак пражылі яны лета. Пачынаюцца сьцюжы. Вось і ўздумала маладзіца йсьці ў свае сяло. Забраліся яны, зладжылі свае дабро ў лубяныя каробкі дый пайшлі дамоў, а тут медзьвядзі ўвязаліся і не пакідаюць ні на крок. Вось яны павесілі свае клумкі на аднаго маладога медзьвядзя, маладзіца села на мядзьведзіцу, а хлопец на другога медзьвядзюка дый паехалі. Выбраліся яны зь лесу на поле дый пад'яжджаюць да сяла. Абачылі людзі медзьвядзёў, спалохаліся ды на ўцекача. Пабеглі ўсе із сяла, куды вочы глядзяць. Пад'ехала маладзіца да свае хаткі, ажно яна пустая. Вось зьлезьлі яны

зь медзьвядзёў, зьнялі свае клумкі дыј пачалі аглядаць хату. Тым часам медзьвядзі панюхалі сельскае паветра дыј патрухалі ў лес. Пачалі зьбірацца людзі дыј не надзівяцца, што вярнулася маладзіца і прывяла такога гожага хлопца. Вось жыве маладзіца із сынам у сваёј хатцы ды даглядае гаспадарку. Тым часам ејны хлапчук пачаў пляскаць у кузьні дыј зрабіўся добрым кавалём.

Пајшла аб гэтым прачутка і дајшла да цэсарськіх слуг. Ужэ даў Бог зраджај, перасталі забіваць дзеці, але цэсарськія слугі кажуць, што Каваля трэ' забіці, бо ён тады радзіўся, як велена было ніщчыць дзеці і што вінавата матка, нашто яна хавала ј гадавала свајго сына. Вось судзілі, судзілі цэсарськія слугі дыј прысудзілі забіць таго Каваля. Пачула тое матка, — плача, рукі ломе, рве на сабе косы ды ўбіваецца, ды галосе на ўсё сяло. А Каваль ані гадкі: пяе песьні, сьмяецца ды разважае сваю матку. Толькі вось чуе ён, што ўжэ јдуць цэсарськія слугі з војськам, каб яго зьнішчыць. Вось выкаваў ён сабе булаву ў дзесяць пудоў, падкінуў яе ўверх дыј падставіў калена. Удырылася булава аб калена дыј загнулася ў дугу. Узяў ён балеј зялеза, выкаваў булаву ў сорак пудоў, падкінуў яе ўверх, наставіў калена і чакае, што будзе. Чакаў, чакаў, аж няма булавы, — яна ўсё ляціць уверх. Чакаў ён з рана аж да паўдня, толькі чуе — гудзе ў небе, бы гром грыміць, гудзе, ляціць тая булава ўніз. Вось ужо сонејка заходзе за лес, як тая булава падляцела дыј удырылася аб калена. Бачыць Каваль, што ў ёј толькі ручка трохі пагнулася. Вось узяў ён тую булаву, заткнуў яе сабе за пояс дыј пајшоў шукаць добрага каня, каб на јім ехаць у сьвет. Шукаў ён

шукаў, але якога каня ня знайдзе, як паложа яму на сьпіну сваю даланю, дык конь і падзе на калені, — ня можа выдзержаць. Што тут рабіць? Ня хоча Каваль пехатој ісьці ў сьвет, а ня можа падабраць сабе каня. Толькі вось едзе рызьнік *), а ў яго каросьлівая кабылка. Падыјшоў Каваль дыј палажыў ёј на сьпіну сваю руку. — Стајіць кабылка і не зварухнецца. Тады Каваль палажыў ёј на сьпіну сваю булаву. Стајіць каросьлівая кабылка, толькі трохі вушамі паківала. І прыстаў Каваль да рызьніка, каб ён прадаў кабылку. Узяў рызьнік за тую кабылку сто рублёў. Ен і з роду ня меў толькі грошаў. Пајшоў рызьнік падскокуючы.

Тым часам Каваль сеў на каросьліваю кабылку, прывязаў да сядла сваю булаву, разьвітаўся з маткаю дыј паехаў сустракаць цэсарськіх слуг і војська. Вось едзе ён шляхам, а на сустрэк увесь шлях заняло војська.—На бок, на бок!—крычаць яму. А ён кажа: не вялікія паны і самі зьвернеце. — Тут накінуліся на Каваля маскалі, а ён ухапіў аднаго за чуб ды як замахнецца кругом сябе, дык војська пластам лажыцца. Цабачылі јіншыя, што бяда ды на ўцекача. Тым часам Каваль, як ехаў памаленку, дык так і паехаў далеј. Вось едзе ён ды едзе ј пад'яжджае да высокае гары: нямаш як ехаці далеј. Зьлез ён із кабылкі, пусьціў яе пасьціся, а сам лёг супачыць, падлажыўшы булаву пад галаў. Сьпіць сабе Каваль і ня чуе, што на кабылку напала двананцаць ваўкоў. Апанавалі яны кабылку адусюль і давај на яе кідацца. Зарзала кабылка, заве Каваля на помач. Прачхнуўся тој, ухапіў булаву ды як пусьце ў ваўкі, дык

*) анучнік.

усіх разам і паклаў, а булава з разгону як урэзалася аб каменнаю гару, дык гара затрэслася дыј рашчапілася на двое. Каваль сеў на кабылку дыј паехаў у тую шчыліну ў сярэдзіну гары Уехаў ён туды, аж там цёмна, хоць ты вока выкаль. Разьвязаў тут Каваль сьпераду голаў, і заблішчэла сонејка, стала відно, хоць ты голкі зьбірај. Вось едзе ён ды едзе, зірне ўперад, аж бача, — там гарыць агонь. Паехаў ён туды, пад'яжджае бліжэј, аж гэта зьзяе д'ямант. Ляжыць яго кусок, бы гарбуз, ды так зьзяе, быццам агонь гарыць. Забраў Каваль тој д'ямант дыј паехаў далеј. Але вось борзда пад'ехаў ён да каменнај сьцяны,—нельга ехаць далеј. Узяў ён булаву, размахнуўся ды як удырыць, дык сьцяна ј рассыпалася. Зірне ён, аж там палацы, ды такія палацы, што паглядзі, дык аж галава круціцца. Зьлез Каваль із кабылкі, пусьціў яе на пашу, а сам пајшоў аглядаць тыя палацы. Јідзе ён ды јдзе з аднае залі ў другую, аж јім і лічбы ј канца нямаш. У які бок ні зірне, усюды палацы, усюды залі адна за аднэј у рад, бы жоравы. Дзьверы адчынены і адны проці адных, дык як зірнеш у дзьверы, а там усё дзьверы, дзьверы, усё меншыя, меншыя, пакуль здаюцца ў кулак і драбнејшыя. Але далеј вока ня схопіць. Тут адныя залі кантовыя, другія даўгія ды вузкія, ё круглыя ды такія вялізарныя, што ј сьценаў не бачно. У адных сьцены гладкія, краменныя, а ў другіх—быццам туман, быццам веснавыя хмаркі, як празь јіх прасьвечуе месяц. Ё ј такія залі, што ј зусім сьценаў нямаш, толькі стаяць таўстыя стаўпы, быццам на парасьлі хвојі, што галавамі ў самае неба ўпіраюцца ды з Богам жупяць*). Дзіва: вакон нямаш, сонејка не бачно,

---

*) гутараць, гамочаць.



Такія палацы, што паглядзі, дык аж галава круціцца (да бал. 8—9).

а відно, хоць ты голкі зьбірај. Вось јідзе Каваль, пастукуе сабе булавою ды туды сюды пазірае.

Прајшоў ён трохі дыј заблудзіўся, — стајіць, ня ведае адкуль прыјшоў і куды трэ' ісьці ўперад. Смутна яму стала ў пустых палацах. Вось стаў Каваль каля стаўпа дыј думае. Але, ведама, чым балеј чалавек думае, тым гарэј ён задуруецца ј заблыгуецца, бы муха ў павучыньне. Стајіць Каваль і ня ведае, што яму рабіці. Аж тымчасам бяжыць мышка. Выскачыла яна з норкі, панюхала паветра, палыпала војстрымі вочкамі, бы голкамі, хацела шукаці еміны дзеткам, але абачыла Каваля, задзівілася, прысела на заднія лапкі дыј сядзіць вушкі разьвесіўшы. Зірнуў Каваль, усьміхнуўся з дурное мышкі дыј наступіў ёј на хвост. Ускочыла мышка, рванулася туды-сюды,—хвост ня пушчае. Вось і давај яна прасіць Каваля, каб ён пусьціў яе, абяцае памагчы яму ў прыгодзе. Усьміхнуўся Каваль, што мышка думае яму, асілку, памагчы ў прыгодзе; але ўсе-ж падняў нагу і пусьціў мышку. Пабегла яна ў сваю норку, а Каваль пајшоў далеј. Толькі ён высунуўся ў другую залю, аж чуе: іржэ ягоная кабылка, заве на помач. Пусьціўся ён бегчы па голасу. Бег, бег, а з палацаў выбрацца ня можа, бо, ведама, у харомах не разьбярэ, адкуль јідзе голас. Яшчэ гарэј заблудзіўся дыј круціцца на адным месцу. А кабылка јрзала, ірзала дыј заціхла. Мабыць яе ваўкі зарэзалі. Што тут рабіць? Шкада кабылкі, а тут із палацаў нельга выбрацца. Схапіў гэта Каваль булаву ды давај малаціць у сьцены. Як замахнецца ды рэзьне, дык каменныя стаўпы ды сьцены сыплюцца, бы пад церніцаю кастрыца. Вось пракладаў ён, пракладаў сабе дарогу, пакуль аж выбіўся з палацаў. Давај тут Каваль шукаць свае

кабылкі, але ніяк ня можа знаjсьці. Стаjіць ды дзярэ чупрыну.

Але вось і бяжыць мышка. Вільнула яна хвастом дыj кажа: „Хадзі за мною, я пакажу тваю кабылку. Але яе ваўкі зарэзалі дыj трыбухі выпусьцілі". — Паjшоў Каваль за мышкаю; праjшлі яны ганоў двое, аж ад кавалёвае кабылкі толькі дрэбы ляжаць, а замест трыбухоў павук аснаваў павучыньне дыj чакае, пакуль прыляціць пшчала або муха. Шкада Кавалю кабылкі, такая шкода, што чуць ён не заплакаў. Сядзіць Каваль каля свае кабылкі ды пазірае, што ёj ужо мурашкі вочы выелі.

Тымчасам ляцела божая пшчолка, шукала ў красках мядку дыj заблыталася ў павучыньню. Б'ецца, гудзе пшчолка, трапеча ножкамі ды махае крылцамі і ўсе балеj заблытуецца ў павучыньне. А тут пабачыў тое павук, кінуўся на пшчолку і даваj яе грызьці. Раве пшчолка аж лес дрыжыць. Пачуў тое Каваль, забыўся і свае ліха дыj кінуўся ратаваць божаю пшчолку. Ухапіў гэта ён аберучкі павука за хвост ды даваj яго вадзіць кругом сябе; вадзіў, вадзіў ды як рэзьне галавою аб дуба, дык у павука j мазгі выскачылі. Выпруціўся павук, толькі нагамі дрыгае. Дрыгаў ён, дрыгаў, аж у пояс выграб яму дыj закалеў. А Каваль тымчасове пачаў разрываць на пшчолцы павучыньне і аслабаніў яе. Дзякуе пшчала дыj кажа: „За тое, што ты мяне выратаваў із бяды, хадзем, я пакажу табе крыніцу із жывою вадою. Падняўся Каваль дыj паjшоў за пшчолкаю, яна ляціць уперад ды толькі гудзе. Тымчасове мышка залезла сабе да Каваля ў кішаню дыj сядзіць там, бы ў норцы. Вось і прыводзе пшчолка Каваля пад высокаю гару. Зірнуў ён на верх гары, дык аж шапка звалілася,



Пасадзіла пшчолка Каваля на плечы дыј паляцела (да бал. 11).

хацеў лезьці на гару, дык няма за што ўчапіцца. Вось пшчолка пасадзіла яго сабе на плечы дыј паперла на гару. Учапіўся Каваль аберучкі за пшчолку, сядзіць ды толькі ухкае ад страху, — ніколі ён гэтак высака ня быў. Узьнясла пшчолка Каваля на высачэнную гару, спусьцілася на зямлю дыј паказуе на крыніцу. Зірне Каваль, аж із гары з-пад каменя жывая вада вось так і сьвішча ўверх, бы з дудкі. Набраў Каваль у пляшачку тае вады, напіўся сам і мышку напаіў. Пасадзіла іх пшчолка ізноў на плечы дыј паперла назад. Толькі яны ўзьнесьліся, аж і ўсхадзілася такая бура, што дубы вырывае з карэньням, варочае каменьне і аж горы хістае. Ухапіла тая бура пшчолку разам із Кавалём і з мышкаю, ухапіла, закруціла, завярцела дыј памчала хто ведае куды. Црэ, аж табе ўваччу мыгціць. Нясе іх бура, бы пярцэ, а Кавалю здаецца, што ён на месцу, а гэта іншае ўсё бяжыць, ляціць, як голаў ня скруце. Бягуць горы высокія, бягуць моры глыбокія, бягуць лясы цемныя, сенажаці вязкія, балоты гразкія, бягуць палеткі пярэстыя ды хаты курныя. Толькі сонейка яснае стаіць, бы ўкапана. І стала яно смутнае, крывавае, заплакала вочкі ясныя дыј лінула сьлёзы гарачыя. Льлюцца яны, бы зь вядра. Сьвету Божага не бачно. Давай дождж прыбіваць іх уніз да зямлі. Вось лятуць яны ўніз, бы камень. Паляцелі ўжэ зусім нізка. Каваль думаў, што як грымнуцца яны аб зямлю, то і з костачак толькі клек пацячэ. Тым часам пшчолка растапырыла крыльцы ды як загудзе, дык і супынілася дыј памчала Каваля з мышкаю проці ветру. Спусьцілася яна ў чужым краі, у далёкім

гаспадарсьцьве, ссадзіла Каваля ј мышку з плеч дыј кажа: „Як будзе патрэба, то пазавеце мянё, а цяпер паляту я мядок зьбіраці ды ў плястры налівацi“. — Пры гэтых словах в-вум! дыј паляцела.

Пајшоў Каваль із мышкаю, куды вочы глядзяць. Јідзе ён, разглядае незнаёмы крај, аж і сустракаюць яго тамашныя людзі. Ведама, людзі—па ўсім сьвеце аднолькавыя людзі: усюдых жывуць, гаруюць, працуюць, маюць свој клопат, сваю плягу. Адныя родзяцца, другія паміраюць. Бо калі-б людзі ня ўміралі, то-б јіх толькі напладзілася-б, што ј зямля-б ня стрымала. Кожын хоча маці дзеткі: хоча, каб яны карміілі на старасьці, каб пры сьмерці зачынілі вочы ды каб маліліся ды памінали. Але вось жыў у тым краю цэсар. У яго быў удалы ды прыгожы адзін сын ды вельмі гожая дачка. Цэсар хацеў пакінуць сыну свае гаспадарства, а дачцэ выбіраў прыгожага ды ўдалага жаніха. Толькі ня было ў тым гаспадарсьцьве такога малајца, каб ён спадабаўся цасарэўне. І пачалі прыяжджаць да яе жаніхі з чужых гаспадарстваў, пачалі сватаціся, але цасарэўна ўсё не згаджалася. Тым часам пајшла раз цасарэўна ў сад гуляць. Гуляе яна, рве краскі, пяе ды пляце сабе вянок. Спляла яна вянок, надзела на голаў дыј хацела јці ў палацы, толькі вось адкуль ні вазьміся Баба-Яга, касьцяная нага, на ступе едзе, таўкачом паганяе, памялом сьлед замятае. Пад'ехала яна да цасарэўны, схапіла яе ў ступу дыј памчала няма ведама куды.

Расказуюць гэта людзі Кавалю дыј кажуць, што пачаў цэсар ззываць героеў ды асілкаў, абяцаў таму, хто верне цасарэўну, аддаць яе

замуж і зрабіць начэльнікам над усім гаспадарствам. Разышліся героі ды асілкі па ўсім сьвеце, але аб іх няма ј прачуткі. Тым часам цасарэвіч падабраў сабе двананцацёх дзяцюкоў, двананцацёх малајцоў најздатнејшых дыј пајшоў із ј імі ў сьвет шукаць сястры—красвае цасарэўны. Доўга ня было аб јім прачуткі, але вось вярнуўся адзін дзяцюк, вярнуўся зь ліхою весьцяј: расказаў ён, што Баба-Яга завезла цасарэўну да Кошчы Несьмяротнага. Тој запер і трымае яе ў каменных палацах пад двананцацьма замкамі. Кінуўся тут цасарэвіч із свајімі малајцамі, а Кошча Несьмяротны як дыхнуў, дык яны ўсе двананцаць і сталі каменем, а што толькі ён адзін стаяў за вуглом і спасься.

Пачуў тое цэсар і заплакаў із жалю, але ня ведае, што парадзіць. Пачуў тое Каваль і захацелася яму знајсьці ј аслабаніць цасарэўну. Як задумаў тое, дык ня можа ані піці ані есьці, і сон яго не бярэ. Вось ляжыць ды ўсё думае. Думаў ён, думаў дыј надумаўся јці да цэсара, толькі ня ведае, што яму сказаць. Ведама, Каваль: ён ніколі ј ня бачыў цэсара, а ня то, каб што. Ляжыць ён, аж падбягае тая мышка ды ўсе хвосьцікам казлыча яго пад носам.

— Адкасьніся! Чаго ты прычапілася?—Кажа Каваль, дыј узяў яе ў жменю. Тым часам мышка высунула із жмені мордачку дыј пачала гаварыць.

— Ня бојся цэсара—кажа яна,—ён такі-ж чалавек, бы ј ты. Ня бојся, толькі вазьмі мяне із сабою, я буду табе падказаваць, бо я ведаю, дзе цасарэўна. Ведама, мне замкоў нямаш — я ўсюды пралезу. Цасарэўна ў тых палацах, дзе ты наступіў мне на хвост. Кошча Несьмяротны запер і трымае яе, каб ніхто не аслабаніў.







Узрадаваўся Каваль, пасадзіў мышку за пазуху дыј пайшоў да цэсара. Ці доўга, ці мала ён ішоў, толькі вось прыводзяць яго да цэсара ў палацы. Спалохаўся Каваль, як абачыў цэсара, так спалохаўся, што ня ведае, чаго ён і прыйшоў, але тут мышка давај яму шаптаць із-за пазухі ды скрабсьціся, каб ён ачухаўся. Прыслухаўся Каваль, што яму падказуе мышка дыј давај казаць цэсару сьмела, бы свајму брату. Выслухаў яго цэсар дыј вялеў даці яму навыбар најлепшага каня. Падзякаваў Каваль дыј пајшоў у царскаю стајню выбіраці сабе каня. Толькі ня можа выбраць, бо як палoжа на сьпіну руку, дык кожын конь і падзе на калені. Сказалі аб тым цэсару. Тој вялеў аддаць Кавалю свајго каня, але мышка шэпча, каб прасіў таго каня, на каторым езьдзіла цасарэўна. Вось Каваль і давај прасіці, каб яму далі таго каня. Пачуў аб тым цэсар, падумаў трохі, — бачыце, яму вельмі шкада цасарэўнінага каня, — дыј вялеў аддаць Кавалю таго самога каня, на каторым езьдзіла цасарэўна. Сеў Каваль на каня, прывязаў да сядла булаву, пасадзіў за пазуху мышку дыј паехаў у сьвет.

Вось едуць яны ды едуць. Нахапілася ноч, а тут цёмны лес кругом і канца яму нямаш. Сьцямнела, хоць ты вока выкаль. Нельга ехаці далеј. Вось Каваль зьлез із каня, прывязаў яго да дубу, а сам выкрасаў агню, падпаліў ламачча дыј лёг спачываць. Лёг дыј заснуў, бы камень. Сьпіць Каваль і ня чуе, што мышка з канём жупяць*).

Тым часам расказала мышка каню, дзе цасарэўна дыј пасылае яго, каб ён зьбегаў

---

*) гамоняць, гукаюць, зюкаюць.

за ноч туды ды прынёс вестачку. Рад конь, хочацца яму пабачыць цасарэўну, але ня можа адарвацiся, бо Каваль вельмi моцна прывязаў. Тым часам мышка ўзьлезла на дуб дыј перагрызла повад. Пусьцiўся конь бегчы ды так сунуў, што ј птушка не дагоне. Прыбег ён да тае гары, дзе былi палацы Кошчы Несьмяротнага, дыј давај бiць капытамi. Малоце ён аб каменнаю гару, аж яна трасецца, бы яе трасца калоце, але стаjiць моцна. Бача конь, што нiчога ня зробе, не разаб'е гары, вось i пабег ён шукаць, цi нямаш шчылiны. Ведама, ува ўсiм знаjдзецца шчылiна, або якая сказа, толькi трэ' добра пашукацi. Забег ён з другога боку дыј напаткаў тую шчылiну, што Каваль зрабiў як удырыў булавою аб гару. Пусьцiўся бегчы конь у тую шчылiну, умчаўся ў самыя палацы, грымацiць там, бы гром.

Пачуў гэта Кошча Несьмяротны, сеў iз Бабаю Ягою на ступу дыј паехаў на сустрэк. Тым часам вось конь i наскочыў на jiх i давај капытамi малацiць па чым папала. Бача Кошча Несьмяротны, што тут не пярэлiўкi, схапiў таўкач ды як удырыць каня па мазгаўнi, дык iзь яго ј дух выперла. Павалiўся конь, задрыгаў нагамi дыј выпруцiўся. Вышчырыў зубы Кошча Несьмяротны, зарагатаў, бы жарабец, дыј паехаў iз Бабаю Ягою аглядаць свае палацы. Едуць яны ды едуць i бачаць, што палацы хтось разьвярнуў i ў самоj гары зрабiў шчылiну. Давај тут Кошча Несьмяротны зарабляць тую дзiрку. Вось пачаў ён перш ламаць ды цягаць туды каменьне. Цi доўга цi каратка ён тое рабiў, тым часове даў Бог дзень.

Прачхнуўся Каваль ды зiрнуў аж няма каня. А мышка маўчыць, зубы сьцяўшы, нiчога ня кажа, —баjiцца, каб Каваль ад злосьцi не забiў яе. Пату-

жыў, патужыў Каваль, пасадзіў мышку за пазуху дыј пајшоў пехатој. Але, ведама, у цёмным лесе, у нетры, — јідзе, јідзе і ўсё на адным месцы круціцца. Заблудзіўся Каваль, сеў на калодзе дыј думае аб прыгодзе. Уздумаў ён аб пшчолцы дыј давај яе зваць на памогу. Пачула пшчолка, прыляцела дыј панясла Каваля з мышкаю на тое месца, дзе ляжалі дрэбы кавалёвае кабылкі. Вось падня лася пшчолка паверх лесу, перанесла цераз высокія горы за сіняе мора дыј апусьцілася ў лесе каля гары. Абачыў Каваль дрэбы свае кабылкі ды аж заплакаў ад жалю. Дастаў ён ізь кішані пляшачку із жывою вадою дыј давај паліваць тыя косьці. Толькі пакрапіў, аж вось так і расьце мяса, расьце скура, вырасла цэлая кабылка, як была. Паліў ён яшчэ раз-другі,—дык вось кабылка пырхнула дыј паднялася на ногі. Падзякаваў тут Каваль пшчолцы, сеў на кабылку дыј паехаў, куды паказавала мышка. Узноў пад'ехаў ён да гары, знајшоў тую шчыліну дыј пачаў абірацца па каменьню. Спатыкаецца кабылка, бо Кошча Несьмяротны накідаў тут каменьня дыј загарадзіў дарогу. Схапіў гэта Каваль булаву дыј давај пракладаць дарогу. Як рэзьне ён булавою, дык аж горы трасуцца.

Пачуў тое Кошча Несьмяротны, пачуў, што ј на яго прыјшло ліха дыј паехаў на сустрэк. Зьехаліся яны дыј давај біцца. Біліся, біліся, аж горы растрыбушылі, разьвярнулі палацы, але адзін аднаго ня могуць асіліць. Бача Кошча Несьмяротны, што Каваль разьбіў ступу, паламаў таўкач і чуць ужэ ня рэзнуў булавою Бабу Ягу, бача, што ня можа здалець, пусьціўся наўцекача, схапіўшы Бабу Ягу ў бярэмя. Зірнуў Каваль, што Кошча Несьмяротны пусьціўся ўцякаць, ня кінуўся яго




Ня толькі людзі, а зьвяры ј птушкі сталі яго слухаць (да бал. 24).

даганяць, а паехаў у палацы, шукаць цасарэўны. Едзе ён ды едзе, а мышка паказуе дарогу, аж бача, ляжыць выпруціўшыся яго конь. Зьлез тут Каваль із кабылкі, дастаў ізь кішані пляшачку із жывою вадою ды давај паліваці ёю каня. Ажыў конь, падняўся на ногі дыј зарзаў ад радасьці. Пачуў тое Кошча Несьмяротны і бача, што Каваль едзе проста туды, гдзе на сямёх замкох сядзела цасарэўна, зрабіў у палацах такую цямноту, хоць ты вок выкаль, нічога не бачно. Вось Каваль разьвязаў на галаве хустачку, дык сонејка ј засьвяціла, стала відно, хоць ты голкі зьбірај, дыј паехаў далеј. Але вось пад'яжджае ён да тых палацаў, гдзе цасарэўна, аж усе дзьверы зачынены дыј завалены каменьням. Зьлез тут Каваль із кабылкі і пачаў адкідаць каменьне. Адкідаў трохі дыј бача, што дзьверы зялезныя, таўшчэразныя, а на јіх па сямёх замкоў. Што тут рабіці? Думаў ён, думаў дыј паслаў мышку праведаці, гдзе цасарэўна. Пабегла мышка: ведама, яна ўсюды знаідзе шчыліну дыј прапліпчыцца. Па немалым часе вярнулася мышка вельмі смутная дыј кажа, што Баба Яга замаразіла цасарэўну. Пачуў тое Каваль, зазлаваўся, схапіў булаву дыј давај біць у сьцяну. Як рэзнуў раз-другі, дык сьцяна ј рассыпалася, бы порхаўка. Кінуўся Каваль туды, аж бача — ляжыць тут цасарэвіч, бы пласт. Баба Яга абярнула яго ў камень. Ляжыць цасарэвіч, бы жывы, а каля яго поруч у рад ляжаць адзінанцацёх ягоных дзяцюкоў, удалых дужасілаў*). Усе яны, бы зроблены з каменя. Агледзіў Каваль, пашчупаў гэтых каменных людзёў дыј пајшоў да цасарэўны. Уходзе ён у тыя ледзяныя палацы, аж там усе зь

*) асілкаў.

лёду, а мо' гэта толькі ўсе перавярнулася ў лёд. Стаяць ледзяныя дзераўлякі; яны абјіневелі, быццам у вялікі мароз. Пад гэтымі дзераўлякамі стајіць ледзяны ложак, на јім полаг, быццам ізь јінею зроблены. На ложку ляжыць цасарэўна, яна ўся ј прасьвечуе, ведама ледзяная, толькі зьверху паў јінеј. Падыјшоў Каваль ды як глянуў на цасарэўну, дык ня можа ј вачоў адвесьці ад яе, такая яна гожая і так яму спадабалася. Стајіць Каваль на адным месцу, бы ўкапаны, а сонејка зь яго лобу так і сьвеце, так і грэе цасарэўну. І пачала яна памаленку таяць ды таяць, пачаў лёд перш бялець, а потым чырванець. Па немалым часе ляжыць цасарэўна, бы жывая, толькі ня дыхае. Дастаў тут Каваль ізь кішані пляшачку із жывою вадою дыј пакрапіў цасарэўну. Заварушылася яна, адчыніла вочы дыј паднялася. Тымчасам растаяў лёд у ўсіх палацах.

Адзелася цасарэўна, села на свајго каня, дыј паехалі яны туды, дзе ляжаў цасарэвіч. Абачыла цасарэўна брата ды давај над јім плакаць, убівацца. Думаў, думаў Каваль, што тут парадзіць, але нічога ня прыдумае. Вось стајіць ён ды глядзіць, як цасарэўна ўбіваецца.

Тым часове сонејка грэе ды грэе. Вось пачаў і камень мякчэць, пачаў цасарэвіч і ўсе ягоныя таварышы ізноў рабіцца людзьмі. Абачыў гэта Каваль, дастаў ізь кішані пляшачку із жывою вадою ды як пакрапіў јіх, дык яны ачухаліся дыј ажылі. Многа тут было радасьці, многа сьлёзаў.

Вось і забраліся ўсе яны ў дарогу. А мышка ізноў залезла Кавалю за пазуху дыј сядзіць. Выбраліся яны з палацаў дыј паехалі лесам. Вось едуць яны ды едуць. А лес вялікі, што

ј канца яму нямаш. Толькі чуюць яны, аж Кошча Несьмяротны за јімі гоніцца. Ад борздага бегу ягонага ўсхадзілася бура, лес трашчыць, ломіцца, вось так і кладзецца лоскам. Выступіў тут на сустрэк Каваль, аж Кошча Несьмяротны так і кінуўся на яго, але ня ўсьпеў насесьці, як Каваль сьперазаў яго булавою. Ад першага разу ў Кошчы Несьмяротнага трэснула галава дыј рашчапілася на дзьве часьці. Вось і пачалі Каваль із Кошчаю тузацца. Доўга яны вадзіліся, Гдзе ступяць, дык там зробіцца такая выскаць або возера, што ј дагэтуль яшчэ можна бачыць јіх у лесе. Але вось Каваль падагбаў Кошчу пад сябе, наступіў яму на горла дыј падняў булаву, каб расквасіць яму мазгаўню. Бача Кошча, што прыјшлі яму капцы, давај ён прасіцца, абяцае, што балеј ніколі ня будзе чапацца, а пачне жыць толькі ў балоце. Пусьціў яго Каваль дыј паехаў барждзэј да цэсара, каб парадаваць яго, што знајшліся дачка ј сын. Вось прыехалі яны. Цэсар вялеў зрабіці сьвята ў усім гаспадарсьцьве, аддаў за Каваля замуж дачку цасарэўну дыј зрабіў яго начэльнікам над усімі начэльнікамі.

Пачаў Каваль жыці-пажываці ды дабра нажываці. Толькі мышка так і асталася ў яго за пазухаю. Калі Каваль робе дабро, то яна ціхенька сядзіць, а як пачне рабіць ліха, мышка скрабецца за пазухаю, аж сэрца драпае вострымі кіпдзюрамі. Доўга жыў Каваль, многа дабра зрабіў ён у тым гаспадарсьцьве. Яшчэ ј цяпер яго людзі ўспамінаюць. Людзі кажуць, што Каваль да самае сьмерці каваў і јіншых вучыў каваць зялеза. Ён казаў, што ў каваля па локаць рукі ў золаце. Вось із тае пары ј пачалі людзі каваці зялеза і рабіці сабе ўс е што трэ.

Але як ні добра было Кавалю з маладою жонкаю ў тым гаспадарсьцьве, як ні паважалі яго, ён усе такі не забыўся сваю бацькаўшчыну. Раз зрабілася яму так моташна, што ј жыці ня можа, ходзе засмучоны, бы пад зямлёю. Пытае яго жонка чаго ён такі смутны. Маўчаў ён маўчаў дыј кажа, што яму хочацца праведаць сваю роднаю матку, хочацца хоць разок зірнуць, што робіцца ў родным сяле. Давај тут жонка прасіць Каваля, каб ён павёз яе да свае маткі.

Забраўся Каваль у вялікаю дарогу, забраў із сабою жонку дыј паехаў. Доўга яны ехалі, доўга блудзілі па сьвеце, нарэсьце прыбіліся ў тое сяло, дзе жыла матка. Застарэлася яна, згорбілася дыј высахла ў шчэпку, а ўсе плакала па сыну, усе хацела абачыць яго перад сьмерцяј. Прыехаў Каваль, знајшоў матку ў старој хатцы дыј кінуўся на шыю, давај яе абыјмаць ды цалаваць. Узрадавалася матка, пачала плакаць, ня можа ј слова выгаварыць ад радасьці.

Нагасьцяваў там Каваль даўгі час, навучыў суседзеў, як каваць зялеза ды рабіці ўсялякія прылады, а потым забраў матку дыј паехаў у чужы крај, у тое гаспадарства, дзе ўсе людзі роўна працуюць, з працы жывуць, адзін аднаму памагаюць, а затым і ліха ня маюць.—Мо' ј праўда, што ёсьць такі крај і так я разумныя ды добрыя людзі, а мо' яны дзе-кол ь век яшчэ будуць. Пабачым ці мо' пачуем, калібудзем жывы.

# З Ь М Е Ј.

У неякім краю жылі людзі бы ў раю: гаравалі, працавалі дыј бяды ня малі. Сьвет вялікі; зямлі многа; усюды вольна, — працуј на хлеб, рабі ды Бога хвалі. І жылі там людзі ў ласца, ў згодзе, ўвесь дзянёчак гаравалі, працавалі, а аб ночы аддыхалі. А прыјдзе бяда — у згодзе ратаваліся ў прыгодзе: бедным, хворым памагалі, дык і ўсе бяды ня малі.

Толькі вось адкуль узяўся і пачаў сюды лётаць страшны Зьмеј; пачаў лётаць, пачаў дабро цягаць, а нарэсьце і людзеў хапаць ды к сабе цягаць. Нахапаў ен людзёў і давај ставіць сабе харомы. Нахапае адусюль людзёў, згоне іх у вадно месца дыј прынукае ставіць харомы, акопаваць іх канавамі, абсыпаць валамі ды абгароджаваць тынам, каб ніхто ня мог туды ўлезьці. Будуюць людзі, капаюць канавы, насыпаюць валы зямлі, бы горы, і патуль гаруюць, пакуль там і загінуць. А Зьмеј хапае ды валоча туды ўсе новых ды новых людзёў.

Нарабіў ён многа такіх гародаў, пралажыў паміж іх дарогі, лётае па іх ды цягае ў гароды і людзёў і людзкое дабро. Працуюць людзі, загаруюць што-кольвек, а тут наляціць Зьмеј, абярэ ўсе, бы пожар, дыј запрэ да сябе ў гароды, а людзі пухнуць ад голаду ды мруць, бы мухі. І чым далеј, тым гарэј: няма спосабу, няма ратунку ад ліхога Зьмея.

Тым часам тыя людзі, што jіх Зьмеj навалачыў у свае харомы, жаруць сабе людзкое дабро, нічога ня робяць ды толькі сала гадуюць. Дык вось ня толькі Зьмеj, але j яны, забыўшыся сваjіх бацькоў ды братоў, пачалі па дарогах вылазіць із гародаў, бы мурашкі з мурашніку, пачалі хадзіць па сьвеце ды адбіраць у людзёў jіхняе дабро. І стала людзём гарэj ад людзёў, як ад Зьмея, бо, ведама, гэтых ліхіх слуг Зьмеевых вельмі многа. Яны, бы плоjма, усюды знаходзяць людзёў і адбіраюць у jіх, што запарвуць. Няма ў jіх літасьці — із жывога скуру дзяруць.

І пачалі яны лічыць людзёў гарэj гавяда *), пачалі саромяцца, што самі яны людзі, пачалі выдумляць сабе ўсялякія мянушкі. Хто назваў сябе зьмеям, хто ваўком або медзьвядзём ці jіншым зьвяром, хто арлом, коршакам ці jіншаю птушкаю, хто якім-колечы дзеравам, і гэтак яны ўсе далі сабе мянушкі. Толькі людзёў называюць яны проста людзьмі, быццам гэта наjгоршае jімя. Дык вось скуль узяліся паны Сьвінскія, Ваўкі і jіншыя...

Тым часам пастарэў Зьмеj, абясьсілеў і ляжыць, бы здыхата. Ляжыць ён на адным баку тысяча год; і пачаў ён гнісьці, пачаў так сьмярдзець, што аж нос верне. Разыjшоўся тоj смурод па ўсіх харомах, запаганіў увесь гарод. Сьвежаму чалавеку нельга падыjсьці блізка да гароду, такі адтуль верне смурод, такі ліхі імпат jідзе ад таго Зьмея. Але панове абнюхаліся дыj кажуць, што гэта пах, што гэта толькі дурныя мужыкі ня знаюцца, што сьмярдзіць, а што пахне.

Тым часам Зьмеj усе гніе ды гніе і так

---

*) жывёлы.

запаганіў гарод, што там і паном жыць ня можна. Пачалі яны адсякаць у Зьмея гнілыя ногі або што другое. Адсякуць адно, а на замест таго вырасьце пяць, а то j болі. Вось бы аднагодкі на пню. І разросься тој Зьмеј, бы гара, разросься j абняў увесь гарод. Загніўся гарод, пајшоў смурод на ўвесь сьвет. Прасьмярдзеліся панове дыј пачалі самі гнісьці, бы здыхата. Яшчэ гарэј стала людзём, бо панове гніюць, ядуць јіх чэрві, точаць јіх жукі; а што здаровыя, тыя ловяць людзёў, цягаюць у вагароджу ды загадуюць абмываць тој гној ды карміць гэнаю здыхату. Служаць людзі дохламу Зьмею, служаць тым гнілым паном, аддаюць јім апошняе, а самі ходзяць галодныя, халодныя ды толькі за працаю сьвету божага ня бачаць. Гэтак і жывуць яны ад веку да веку. Адны ўміраюць, другія родзяцца і нямашака ніякае палёгкі. І да таго дажыліся людзі, да таго падурэлі, што j ня думаюць аб лепшым жыцьцю. Јім здаецца, што гэтак і трэба, што јнакш жыць, дык і сьвет зьвядзецца. „Гэтак жылі нашыя прадзеды j дзяды; трэ j нам уступіць у јіх сьляды“ — кажуць людзі дыј нічога ня робяць, каб зрабіць лепшае жыцьцё.

Але радзіўся ў тым краю хлапчук. Быў ён вельмі худы: ды вось як заняпаў змалку, дык так і астаўся на ўсе жыцьцё. Ні панове, ніхто яго не чапае, бо ён такі нехлямяжы, што нікому непатрэбны. Ен і вырас ужэ, але ўсе грае зь дзяцьмі, бы маленькі. І празвалі яго людзі Іванкам Прастачком. Узімку сядзіць сабе Іванка Прастачок на печы ды з лучынак цацкі складае, а ўлетку пясочак перасыпае зь дзяцьмі. Так пражыў ён год трыццаць.

Раз сядзіць Іванка Прастачок на зямлі каля прызбы ды перасыпае пясочак, аж јідуць

тры старцы. Прыјшлі яны к хаце дыј селі на прызьбе аддыхнуць. У сяле ні жывое душы — пан усіх выгнаў на работу. Пуста, хоць падпалі. Сядзяць старцы на прызьбе, супачываюць ды насыпаюць у люлькі тытуну. Хапіліся яны, аж няма агню дыј просяць Іванку, каб ён дастаў агню люлькі закурыць. Пабег Іванка ў хату, набраў у прыгоршчы жару дыј прыносіць старцом. Закурылі тыя люлькі, падзякавалі Іванку дыј пытаюць яго, што ён робе. — Пясочак перасыпаю — кажа Іванка, — бо што ні рабіць, то ўсе на паноў тахціць. А нашы людзі дурныя, цягнуць жылы ды з усяе сілы гнуцца, дзела спраўляюць, а ліха маюць, бо паны ўсе к сабе грабуць, з мужыкоў скуры дзяруць, а то ј зусім јіх к сабе бяруць, за сьвет заганяюць, б'юць, калечаць, мучаць, забіваюць і літасьці ня маюць.

Паслухалі тое старцы, галавамі паківалі, узяліся за струмэнты дыј згралі. Першы раз згралі — Іванку розум далі; другі раз згралі — у сэрца жаласьці нагналі; трэјці раз яны згралі — язык Іванку разьвязалі. Зьніклі старцы, а Іванка Прастачок стаў за дзела брацца дыј у сьвет зьбірацца. Зрабіў дудку-весялушку ды зграў сабе так гожа, што ня толькі людзі, а зьвяры ј птушкі сталі яго слухаць, сталі ў круг зьбірацца. І пачаў Іванка Прастачок па сьвеце хадзіць, у дуду граць, людзёў зьбіраць ды јім праўду казаць. Як зграе, дык і абачаць людзі, што вялікая крыўда на сьвеце, што адны пануюць, другія гаруюць, адны багацьцю лічбы ня маюць, другія з голаду падыхаюць. І разьнёсься ад Іванкавае дудкі голас па ўсім сьвеце. Пачалі людзі к таму голасу прыслухацца ды розуму набірацца, пачалі думаць ды гадаць, як за праўду пастаяць.

Учулі па палацах той вялікі голас дый спалохаліся слугі Зьмеевы, пачалі яны войська зьбіраць ды Іванку Прастачка шукаць. Чуюць голас на ўсходзе—шамялях яны туды. Палашы блішчаць, пікі, бы лес, тырчаць, гарматы грымацяць, а Іванкі ня відаць. Стануць ціха, бы на паляваньню, слухаюць, стаяць. Аж тым часам чуюць голас на заходзе — грае дудка-весялушка, грае, людзёў навучае. Ідзе пошчак ад сяла да сяла, па полю, па лесе ад краю да краю. Кінуцца яны на заход; гоняць коні, бягуць самі, шаблямі зьвіняць, на зьві вецер з гармат страляюць, ды Іванкі не спаймаюць. Гудзе дудка, грае: то засьвішча, то, бы бусел, заляскоча, то зацягне ценка, вось бы павучыньне, то так дробненька шчабеча, што ў паноў аж лыткі затрасуцца, а мароз бяжыць па сьпіне, быццам мыш туды залезла дый скрабецца пазурамі. Вось із тых часоў слугам Зьмея ні ўдзень, ні ўночы ані каліўца спакою, бо бяды яны сабе чакаюць, бы вол даўбні. Дудка сьвішча, дудка грае; пошчак па сьвеце гуляе, людзёў навучае. Яго ні злавіць, ні з гармат забіць. Ен вольна па сьвеце гуляе, ніякіх загародак ня знае; хоць сам бязь цела, ды вялікаю сілу мае. Грае, грае, а як прыйдзе час, дык усіх ён параўняе. Ой ты дудка мая, весялушка мая!

# РЫМША АБО ПАНУ НАВУКА.

Слухајце! Бо скажу вам ня казку, а шчыраю праўду. Дзе тое было, цяпер я забыўся, бо ўжэ, бачыце—старасьць. А ведама, калі з чупрыны гінуць валасы, то ј памяць з галавы. Вось я забыўся, што сягоднячы абедаў. Не памятаю. А мо‘ ј нічога. Трапляецца ј гэтак. Кажуць-жа: часам із квасам, а пароюзь бядою, ці бо — з вадою.

Цяпер ліха, жаляцца маладзічкі, а даўнеј было гарэј. Вы таго не памятаеце. Ня вельмі даўно тое было, яшчэ за паншчыну. За паншчынаю было добра, калі трапляўся добры пан. Але дзе траплялісся такія добрыя панове? Болі былі не панове, а зьвяр‘ё паганае. Як трапіцца такі нягодны пан, то хоць лажыся дыј паміраj—нічым яму ня ўгодзіш. Кажуць-жа: зачыні чарту дзьверы, то ён у вакно. Гэтак і ліхі пан. Ты яму годзіш, шчыра робіш, а ён табе ўсе крычыць: „Ня так, шэльма, ня так, нягодніку,“—і есьць цябе поедам, есьць, зьневажае, зьдзекуецца. А чуць што—жыўцэм скуру злупіць. Ој цяжка, вельмі цяжка было за ліхімі панамі. А ліхія панове траха *) былі ўсе.

Вось у вадным двары быў такі ліхі пан. Чаго толькі ён не вырабляў! Як толькі ён не назьдзекаваўся над людзьмі. Сьцёбаў ён і мужы-

*) блізу што.

коў і бабаў, старых і малых. Расьцягнуць бывала маладзіцу або дзеўку, камісар паказуе палцам дыј кажа: Пане о! — Лупі па о, — кажа пан, і хурман пачне пярэсьціць, што аж пара вале. Не аднаго ён засьцёбаў на сьмерць і нікога не баяўся. А людзеў ён лічыў гарэј за сабакі.

Ня мог тој нягодны пан ужэ балеј нічога прыдумаць, каб пазьдзекавацца над людзьмі, вось і вялеў ён, каб мужыкі прыводзілі на продаж валы толькі ў двор; а па канцох сяла паставіў рагаткі, дыј не дазволіў праехаць да мужыкоў ніякаму купцу. Вось і павялі людзі ў двор валы на продаж. Але прывядзе хто вала, а пан і кажа: „Што-ж ты прывёў, асёл? гэта-ж ня вол, а казёл.“ — І заплаце, бы за казла, а то яшчэ пашле на стајню ды ўсыпе паўсотні гарачых. Доўга мучыліся бедныя мужыкі з такім нягодным панам; доўга цярпелі, бо што зробіш, каму пажалісься!? Ведама, паны за панамі ј цягнуць.

Але знајшоўся адзін чалавек, што адплаціў таму пану за ўсі людзкія сьлёзы ды за крыўду. Вось як тое было. Быў там удалы, здатны дзяцюк. Рана ён асірацеў, але ј адзін узьбіўся такі на гаспадарку. Горды быў дзяцюк. Ніхто яго ніколі ј палцам не зачапіў. Прыводзе ён у двор на продаж вала. Абачыў пан, выјшаў на ганак, дыј кажа: „Што-ж ты прывёў, асёл! гэта-ж ня вол, а казёл“.—Пазірнуў тој дзяцюк, што блізка нікога няма каля пана, паказаў яму папліску дыј пытае: „Што гэта, пане, бяроза ці лаза? Я-ж прывёў да цябе вала, не казла...“ І давај пярэсьціць, давај дубасіць пана тою папліскаю. Рэзаў, рэзаў, пакуль сам здаволіўся. „Вось-жа табе, пане, затое, што ты людзеў мучыш. Калі

вычухаеш гэта, то чакај мяне яшчэ трэјчы; трэјчы я здыјму зь цябе скуру.“ — Сказаў гэта тој дзяцюк дыј уцёк у лес. А ведама, якія даўнеј былі цёмныя ды густыя лясы. У іх жыві, колькі хочаш, ніхто цябе ня трапіць. Знајшла дворня пана бяз памяці, так яго вымясіў тој дзяцюк. Толькі на трэјці дзень трохі ачухаўся пан і вялеў злавіць Рымшу — так звалі таго дзяцюка. Ды куды там — яго ј сьлед ветрам замяло. Траха *) сем тыднеў пракачаўся пан; чуць чарту душу не аддаў. Якіх толькі дахтароў ня прывозілі — нічога не памагае, бо яму мабыць Рымша адсадзіў печанцы. А што ўложа хам, то ня выјме ј пан.

Але па немалым часе прыехаў у двор якісь Вугорац. У яго ўсялякага зельля, усялякае лякобы! Рад пан, кланяецца, просе таго Вугорца, каб яго палячыў. Пагасьцяваў Вугорац у двары дыј давај лячыць пана. Вялеў гэта ён напаліць лазьню; павёў пана туды, пасадзіў яго на лаўцы дыј вялеў аберучкі дзяржацца за жэрдачку, а сам пачаў націраць пана ўсялякімі мазьмі. Сядзіць пан, трымаецца аберучкі за жэрдачку ды толькі крэкча. Але ня доўга ён так сядзеў: выцяг **) Вугорац із кішані суромец, прывязаў јім да жэрдачкі панскія рукі, заткнуў пану вехцям горла, узяў хварасьціну дыј кажа: „Што гэта, пане, бяроза ці лаза?—Я-ж прадаў табе вала, не казла.“ — Бача пан, што гэта Рымша, а ня Вугорац, хоча крычаць, але ня можа, бо вехаць у роце. Круціцца пан, бы ўюн на гарачај скварадзе, а Рымша дастаў з-пад палы канчук і давај хрысьціць нягоднага пана па чым папала.

---

*) блізу што.
**) выцягнуў.

Лупіў, лупіў, траха ўсю скуру зьдзер дыј давај пасыпаць пана сольлю. Замлеў пан ад болю. А Рымша сеў на коні дыј паехаў сабе. Толькі яго ј бачылі. Усе думалі, што ўжэ таму пану прыјшлі капцы. Але ліхога ј сьмерць не бярэ: на вясну трохі вычухаўся пан і хацеў ехаць заграніцу на воды, але, бачыце, грошаў нямаш. І ўздумаў ён прадаць лес.

Пајшла погаласка і пачалі купцэ аглядаць лес. Таргаваліся яны, таргаваліся, ды ніяк не сцанующца*), бо пан вельмі даражыўся. Толькі вось прыехаў бачно вельмі багаты купец. Павёў яго пан аглядаць лес. Хвале пан лес, а купец толькі ўсе адводзе яго ў гушчар ды ў нетру. Забраліся яны ў такі гушчар, што ј сьвету Божага не бачно; вось купец і давај абыјмаць хвоі, сажням мераць таўшчыню. Абхапіў і пан адну хвајіну, а купец борзьдзенка выхапіў із кішані суромец дыј прывязаў пана да хвоі. Бача пан, што тут не пярэліўкі, і хацеў крычэць, зваць на ратунак, але так спалохаўся, што няма голасу. Купец паказаў яму папліску дыј пытае: „Што гэта, бяроза ці лаза? Я-ж, кажа, прадаў табе вала, не казла“.—Дагадаўся пан, што гэта Рымша. Тымчасам Рымша запхаў пану мохам рот дыј давај пярэсьціць па чым папала ды прыказаваць, каб балеј ня зьдзекаваўся над людзьмі. Біў, біў Рымша пана, чуць на сьмерць не забіў ды так і кінуў прывязаным да хвоі, бы здыхату. Так да вечара і ўсеньку ноч правісеў пан на хвоі, чуць яго нудзьга ня зьела, пакуль дворня знајшла. Тут ужэ пан цэлы год пракачаўся: усе ня можа ачуняць. Радзяць пану ехаць на воды. Прадаў гэта пан лес, прадаў

---

*) не зьмяркующца аб цану.

збожжа ды статак. Забраў многа грошаў дыј давај выладжавацца на воды.

Тымчасам Рымша ўсе цікуе за панам. Толькі пан выехаў із двара ды ўехаў у лес, як Рымша ўжэ зрабіў на яго пастку. Паставіў ён на дарозе ганоў на трое адзін ад аднаго двух конных малцаў із даўгімі папліскамі. Толькі пад'ехаў пан, як першы малец трасе папліску дыј крычыць: „Што гэта, пане, бяроза ці лаза?“ А сам па каню дыј наўцекача. — „Лавеце, лавеце! — крычыць пан, — то-ж нягоднік Рымша“. Хурман адрэзаў пастронкі, сеў на каня дыј пагнаўся за малцам. Але тој сунуў у лес і хто ведае куды дзеўся. А хурман папёр дарогаю ўперад мо' вярстоў дзесяць. Тымчасам заехаў уперад перад панам другі малец, паказаў папліску дыј пытае: „Што гэта, пане, бяроза ці лаза?“ — „Лаві, лаві яго нягодніка! — крычыць пан на лякая, — то-ж Рымша“. Ускочыў лякај на другога каня дыј пагнаўся за малцам. Астаўся пан адзін. Тут Рымша высунуўся з-за выскаці дыј паказаў пану папліску: „Што гэта, пане, бяроза ці лаза? — Я-ж — кажа, — прадаў табе вала, а не казла.“ І давај дубасіць ды перыць пана тою папліскаю. Зьбіў Рымша пана на горкі яблык, забраў усе грошы дыј пајшоў сабе ў лес, у сваю зямлянку.

Кажуць потым Рымша многа дабра рабіў людзём. Яшчэ дагэтуль у цёмным лесе сярод балота стајіць гара. Яе называюць Рымшаваю Гарою. Гэта паміж Запольлям і Навоселкамі (Мозырскага павету). Мо' ведаеце? Дык кажуць— там жыў тој Рымша.

# БОРТНІК.

Было вельмі лагоднае падвор'е: вось так павядзі языком—бы мёд. Гэта ўжэ якась на вясьне перад летам. Ведама,—пагода харошая; сонејка зьзяе, аб ночы прајшоў цёплы дождж зямля выкупалася, напілася вады—усе расьце, бы на дражджах. Прылажы вуха да травы, дык і чуваць, як яна расьце. А краскі цьвітуць, бы жар гарыць. Ад jix цяплінёј і нясе, і такі пах jідзе, што ўсе-б нюхаў і ніколі-б не нанюхаўся. Зраньня выпала мядовая раса дыј разьлілася па красках, па траве ј па зямлі, быццам узяў хто ды сытою ј апырскаў усю зямлю. Сонејка падняло ўгару ды так прыгрэла, што ізь зямлі аж пара клубам пајшла, паваліла, бы з гаршка. А сонејка ўсе грэе, усе пячэ. Куды ні глянь—усе блішчыць, палыскуецца ды так і трасецца, бы гаршчок у печы, як у јім кіпіць вада. Раса высахла, а мёд так і астаўся на траве ды на красках. Чмялі, пшчолы ј матылі лётаюць, гудуць пад краскамі ды ссуць мёд.

Бортнік панюхаў паветра, лізнуў языком—чуе, аж соладка, і пацёгся ў лес, дзе на адрох стаялі пшчолы. Јідзе ён ды јдзе, аж чуе—равуць пшчолы немым голасам, аж лес дрыжыць. Прыслухаецца Бортнік, аж мармычуць медзьвядзі.—Ну—думае—гэта яны напалі на пшчолы.—Пабег Бортнік ратаваць. Бяжыць ён дзень, бяжыць другі—чуе: пшчолы равуць, медзьвядзі мармычуць, а дабегчы ня можа. Толькі на трэцi дзень

дабег ён да таго месца; бача, аж два медзьвядзі напалі на пшчалу, задралі яе, а самі ляжаць ды смокчуць мёд. Высмакталі яны пшчалу, толькі дрэбы асталіся. Падбягае тут Бортнік, а медзьвядзі сталі на заднія лапы ды на яго ј кінуліся. Падбег адзін мядзьведзь, разявіўся ды на Бортніка, а тыј ухапіў аднэј рукою за язык, я другую засунуў у горла па самое плячо, учапіўся за хвост ды як пацёг, дык і вывярнуў медзьвядзя трыбухамі на верх. Раве тыј мядзьведзь не свајім голасам, а другі, як абачыў тое, дык пусьціўся ўцекі. Бортнік за јім. Мядзьведзь дабег да ракі, кінуўся ў ваду дыј пераплыў на другі бок. Падбег Бортнік да ракі. Як тут перајці? Глыбака, а плаваць ён ня можа. Думаў, думаў Бортнік, ухапіў сябе за чуб ды як шыбануў, дык і перакінуў цераз раку. Спалохаўся мядзьведзь, бяжыць ды толькі хвастом круціць. Але вось дагнаў яго Бортнік, ухапіў за хвост дыј давај махаці наўкола сябе. Махаў, махаў; тым часам як адарвецца хвост ды паляціць мядзьведзь, ды ўрэжацца галавою аб дуб, дык і дух ізь яго выперла. Злупіў Бортнік із гэтага медзьвядзя скуру, разьвесіў яе на дзераве і пајшоў да першага медзьвядзя. Прыходзе ён, аж тут назьбіралася на медзьвядзя крумкачча, бы хмара; дзяўбуць яны ў медзьвядзя вантробы, а ён качаецца ды раве. Бортнік адагнаў крумкачоў, дабіў медзьвядзя, а зь ягонае скуры зрабіў сабе кажух.

Разглядае Бортнік тўю пшчалу, што медзьвядзі задралі, бача ажно гэта ягоная пшчала. Узяў гэта ён еіныя дрэбы дыј давај јіх палівацъ мядовым сокам із краскаў. Аблівае ды аблівае, а косьці ўсе абрастаюць мясам. Вось пшчала заварушылася ј ажыла. Ажыла яна, распусьціла

крылы дыј дзякуе Бортніку, што спас яе ад сьмерці: —Я табе—кажа—згаджуся ў прыгодзе,— а сама, бзым! дыј паляцела.

Пајшоў Бортнік далеј і зајшоў у цёмны гу́сты лес. Але вось узьнялася бура. Трашчыць лес, ломіцца, а віхор так і круце, так і кладзе дзераўлякі да самае зямлі. Загрымацела, бліснула маланка, а пярун адзін за адным так і смале так і грэе. Як трэсьне ў дуба або ў хвою, дык і распаласуе ад самога верху аж да нізу.—Ну— думае Бортнік—сягоднячы Ільля многа чарцеј напалюе.—

Толькі вось лінуў дождж ды такі, што бы зь вядра. Куды тут схавацца? Бача Бортнік, што якаясь птушка зьвіла сабе гняздо на сямёх дубох. І палез ён туды, каб схавацца ад дажджу. Падлазе, аж там цэлыя палацы. Улез Бортнік у тыя палацы і азіраецца наўкола, каб чаго не запэцкаць, так там усе блішчыць і зьзяе, аж палыскуецца. Праслаў ён свој кажух, лёг дыј пакуруе сабе піпачку. Тым часам дождж лупіць, бы з латака льле. Зрабілася цёмна, як пасярод ночы. Толькі як блісьне, блісьне маланка, дык аж вочы сьлепе. А як трэсьне пярун ды загрыміць ды прыцісьне, дык аж палацы трасуцца, быццам јіх трасца калоце. Перахрысьціўся Бортнік, бо стала яму вельмі смутна.

Але вось так заблiскала, што стала зусім відаць. Зірне Бортнік, аж перад јім стаїць такая гожая дзяўчына, што ні ў казцы сказаць ні пяром напісаць. Стаjіць яна ды косы перабірае. А косы ў яе даўгія, аж да пят.—Мабыць гэта русалка—думае Бортнік. Ён чуў ад людзёў, што ў лесе русалкі спадманюють мужчын; абыјмаюцца, цалуюцца ды казлычуць датуль, пакуль не заказлычуць на сьмерць. Або спадманюють песьнямі да ракі і там топяць дурных дзяцюкоў

Дзяўчына глянула на яго ј кажа—Ня бојся мяне, добры чалавеча! Я табе не зраблю ліха. Цяпер я буду табе служыць усе жыцьцё. Тольκі ты вызваль мяне з гэтае няволі.—

І пачала яна расказаваць, што за сінім морам, за высокімі гарамі, за балатамі ды за лясамі ё вялікае гаспадарства. Там жывуць людзі ўсі гожыя: белыя ды румяныя, бы кроў з малаком. Там і яна жыла ў роднага бацькі, роднага бацькі—слаўнага гаспадара; у роднае маці, роднае маці—слаўнае гаспадарыні. Але наляцеў на тое гаспадарства вялікі зьмеј і хапаў людзёў најхарошшых ды најудальшых, хапаў і еў або выносіў за сіняе мора, за высокія горы, за балаты ды за лясы і там раськідаў јіх па сьвеце. Шмат людзёў асіраціў ён у тым гаспадарстве, шмат ён там праліў людзкіх сьлёзаў. Зжаліўся над людзьмі слаўны гаспадар—мој родны татуля і аб'явіў усім дужасілам,*) што хто таго зьмея злове ды ўходае, за таго слаўны гаспадар—мој родны татуля аддасьць мяне замуж.

Прачуў тое страшны зьмеј, прачуў ды пранюхаў, пабіў војська адважнае, паламаў засаўкі зялезныя, павысаджаваў дзьверы дубовыя дыј ухапіў мяне ад слаўнага гаспадара—роднага татулі, ад слаўнае гаспадарыні—роднае матулі і панёс мяне за сіняе мора, за высокія горы, за вялікія балаты, за цёмныя лясы, прынёс сюды дыј схаваў у гэтым палацы. Сам і дагэтуль вылятае ды людзёў цягае. Была тут адна божая пшчолка. Яна кожны дзень да мяне лётала ды вестачкі насіла ад слаўнага гаспадара—роднага татулі ды ад слаўнае гаспадарыні—роднае матулькі. Толькі вось ужэ дні тры прајшло, як яе няма. Чула я—раўлі медзьвядзі, раўлі страшна, аж

*) людзём із дужој сілаю, асілкам.

зямля дрыжэла. Чула я — крычэла пшчолка, немым голасам крычэла ды прасілася ратунку. Крычэла-крычэла дыј заціхла. Мабыць медзьвядзі маю пшчолку задралі.

Задраць яны задралі — кажа Бортнік — пшчолку задралі, але затое свае скуры мне аддалі. Во, гэта ј скура з аднаго медзьвядзя,—паказаў Бортнік на свој кажушок. Цасарэўна ўхапіла тыј кажушок дыј напранула на сябе. Бача яна, аж у мядзьведжај шэрсьці асталася тая пісулька, што несла пшчала. Перачытала яна тую карту дыј кажа: „Пішуць слаўны цэсар — мој родны татуля ды слаўная гаспадарыня, — мая родная матулька, каб я ў зьмея выведала, чаго ён бајіцца і хто яго можа здалець. Але як мне яго пытаці, калі ён ня хоча ј размаўляці?

— Не бядуј—кажа Бортнік—мая краля, бо я хоць загіну, цябе не пакіну.

— Ој, саколе мој ясны, як табе ізь зьмеям цягацца, калі яго ўсі людзі баяцца?

Тым часам загрымелі грымоты; паказалася сонејка з-за хмары. Так і зазьзялі залатыя палацы. Але вось ізноў усхадзіўся віхор.—Ој, хавајся, саколе мој ясны!—кажа Бортніку цасарэўна—гэта-ж ляціць сюды зьмеј.

Спалохалася цасарэўна, пачапілася Бортніку на шыю дыј вісіць, бы няпрытомная. Ухапіў Бортнік яе на бярэмя ды давај Бог ногі: выскачыў із палацаў дыј паперся ў гушчар. Ці доўга, ці каротка ён нёс цасарэўну, толькі ўмарыўся дыј прысеў пад дубам, каб аддыхацца хоць крыху. Тым часам вярнуўся зьмеј у свае палацы. Чуе—чужым духам пахне, Давај ён шукаць цасарэўну. Бача, аж адчыненыя дзьверы. Дагадаўся зьмеј, што хтось украў цасарэўну, зазлаваўся, грызянуў сябе за хвост дыј

паляцеў даганяці. Ляціць зьмеј, а ад тае шыбчыні пад јім аж лес гарыць. Чуе Бортнік, што зьмеј ужэ блізка, ухапіў цасарэўну на бярэмя дыј пусьціўся на балота. Гразка—ведама балота, толькі паміж дрыгвы купіны тырчаць. Цасарэўна моцна ўхапілася за шыю дыј трымаецца, бы клешч. А Бортнік скача сабе ды скача з купіны на купіну. Так і дабраўся ён да астраўка.

Тым часам даляцеў зьмеј да балота дыј думае, што мабыць згубіў сьлед, бо цераз балота ніхто ня можа прајці. Вярнуўся зьмеј у палацы ды давај адтуль нюхаці сьлед ды јці за Бортнікам. Бача Бортнік, што зьмеј згубіў сьлед, паслаў цасарэўне ј сабе лісьця і ляглі яны спаць, бо ўжэ ноч надыјшла. Ляжаць яны сабе ды гукаюць, а тым часам і ночка прајшла. Ведама, улетку, якая ноч. Заснулі яны, як ужэ ўзыјшло сонејка. Ужэ пачало прыпякаць, а яны сьпяць, бы ўмерлыя, сьпяць і ня чуюць, што зьмеј прэ цераз балота проста на астравок. Прыпякло сонејка, загулі чмялі ды пшчолы над краскамі — зьбіраюць мёд. А Бортнік сьпіць і нічога ня чуе. Вось ужэ зьмеј на астраўку, вось-вось нападзе дыј пажрэ Бортніка разам із цасарэўнаю адным хламам. Першы спужаўся зьмея зајчык баязьлівы, усхапіўся з-пад куста, прылажыў вушы ды як суне, ды ад страху наскочыў якраз Бортніку на нос. Чмыхнуў Бортнік дыј прачхнуўся. Прачхнуўся ён — чуе, аж зьмеј блізка; хапіў ён цасарэўну на бярэмя дыј папёр далеј цераз балота. Бег-бег, дабег да ракі. Рака ґлыбокая ј шырокая. Як тут перабрацца на другі бок? Стаіць ён на беразе дыј думае; бача, аж у рацэ грае шчупак.

— Шчупак, шчупак!—просе Бортнік—перавязі нас на другі бок ракі.

— Ня маю калі,—трэ'лавіцi плоткі. — Вільнуў хвастом дыј паплыў.

Вось ляціць шуляк*). Бортнік давај яго прасіці—Шуляк, шуляк, перанясі нас на другі бераг.

— Няма калі,—трэ'лавіць птушкі ды карміць дзеткі.—Махнуў шуляк крыламі дыј паляцеў. Прыляцела да ракі пшчолка піці ваду. Бортнік і просе яе:—Пшчолка, пшчолка! пераправ нас на другі бераг.—Добра—кажа пшчолка—я ўвесь век раблю на людзёў і на Бога. Садзецеся на мяне.—Селі Бортнік із цасарэўнаю на пшчолку, а яна растапырыла крылцы ды вум! і пераляцела цераз раку. Дабег зьмеј да ракі ды давај рабіць мост. Навырываў з карэньням дубоў, нацягаў у раку дыј загаціў ваду ада дна аж да верху. Яшчэ ј дагэтуль там ляжаць на дне ракі цэлыя дубы.

Тым часам Бортнік дабраўся да гасподы. А ведама, у гасподзе кожны сьмялеjшы. Толькі вось па немалым часе і прэ зьмеј. Што тут рабіць? Ухапіў Бортнік зубель, запаліў яго дыј выскачыў з хаты. Зьмеј тут на яго ј напаў, а Бортнік і ўсадзіў зубель зьмею ў горла ды давај зь јім біцца. Ці доўга ці мала яны біліся, толькі зьмеј пачаў над Бортнікам браць верх. Бача Бортнік, што яму прыходзяць капцы, уздумаў аб тэј пшчале, што адратаваў ад сьмерці, дыј гукнуў яе на помач. Толькі ён клікнуў: — Пшчала, пшчала, памажы ў прыгодзе! — як сыпне сюды цэлы рој пшчолаў, ды як нападуць яны на зьмея, ды пачнуць яго кусаць, ды пачнуць грэць. Круціўся, круціўся зьмеј дыј зьвіўся, бы вужака. Усхапіўся Бортнік, ухапіў сяке-

*) каршун.

ру дыј адсек зьмею голаў. Доўга круціўся зьмеј без галавы, круціўся, аж яму выкапаў. Падзякаваў Бортнік пшчале, дабіў зьмея дыј зьдзер із яго пярэстаю скуру. Рада цасарэўна, бы на сьвет нарадзілася, дзякуе Бортніку і просе яго, каб ён пајшоў зь ёю ў тое слаўнае гаспадарства, да слаўнага гаспадара — да яе роднага бацькі, да слаўнае гаспадарыні—да яе роднае маці, каб пајшоў туды.

Забраўся Бортнік у вялікаю дарогу, узяў із сабою капу лапцёў, цагала, крамянец, ды губку, палажыў у торбу зьмяјінаю скуру дыј пајшоў з цасарэўнаю ў слаўнае гаспадарства, за сіняе мора, за высокія горы, за вялікія балаты, за цёмныя лясы. Јідуць яны ды јдуць; перајшлі лясы, перајшлі балота, падходзяць да гораў. А горы высокія аж да неба. Пачалі яны лезьці на горы. Лезьлі, лезьлі, дык і канца няма. Бачаць яны, аж на дубе арлінае гняздо, а ў гнязьдзе малыя арляняткі. Сядзяць арляняткі, раты разяваюць ды есьці просяць. Накармілі яны арляняткі, а самі селі аддыхаць. Тым часам на гняздо напала куніца. Яна хацела паесьці арляняткі. Тут Бортнік як перацягнуў папліскаю куніцу, дык яна ј выпруцілася. На гэты час налятае арол. Абачыў ён, што Бортнік абратаваў малыя дзеткі і кажа — Прасі, чаго хочаш.—Перанясі нас цераз гэтыя горы,—просе Бортнік.—Добра, садзецеся на мяне. Селі гэта яны на арла, а тыј і перамчаў јіх цераз высокія горы ды цераз сіняе мора. Падзякавалі яны арлу дыј пајшлі да слаўнага гаспадара ды да гаспадарыні. Јідуць ды јдуць, распытуюць дарогу. Напасьледак, прыјшлі яны да гаспадарскіх палацаў. Прывялі јіх да гаспадара ј гаспадарыні.

— Якія вы людзі?—пытае цэсар — адкуль вы прыјшлі?

Не пазнаў ён свае дачкі, так яна паблажэла ў зьмея ды зьмянілася. Але як учула цэсарыха голас, дык і пазнала дачку. Тут яна кінулася ёј на шыю і давај цалаваць ды абыјмаць. Тым часам Бортнік дастаў із кајстры скуру зьмееву дыј праслаў яе на зямлі. Спалохаліся ад аднае скуры ўсі тут князі ды баяры. Давај цэсар пытаці Бортніка, як ён вызваліў цасарэўну. Расказаў Бортнік, а гаспадар із гаспадарыняј пасадзілі яго із сабою за стол і давај частаваць. Па немалым часе аддаў цэсар за Бортніка сваю дачку—харошаю цасарэўну, і сталі яны жыці, пажываці ды людзёў не забываці. А па сьмерці гаспадара цэсара стаў гаспадарыць у тым гаспадарстве Бортнік. Пры јім добра было ўсім людзём, бо ён памятаў, што тыј најдужшы, хто робе дзеля людзёў і дзеля Бога.

---

# АСІЛАК.

Жылі сабе дзед ды баба. Жылі яны ў згодзе: любіліся-кахаліся ўсе жыцьцё. Разам гаравалі, працавалі, разам аддыхалі. І былі шчасьлівыя, толькі ў вадным ня даў Бог јім уцехі — пражылі ўвесь век і ня малі дзяцеј. — Хто нам на старасьці вады падасьць? — Часта гаманіла баба і хвартухом уцірала сьлёзы. — Ня плач, баба—разважаў яе дзед,—ніхто, як Бог. Ён міласьлівы, мо‘ яшчэ ј парадуе нас на старасьці. — Баба пакідала плакаць і ціханька сьміялася. Бывала яе вочкі блішчаць ад радасьці, дарма, што твар, бы ральля, увесь зморшчыўся. Ведама, чалавек ніколі ня кідае надзејі на шчасьце, бо без надзејі нельга жыць на сьвеце.

Раз быў сьвяты дзень. Вясна. Чуць зајшло сонца. Вечар цёплы, пагодны. Павячэралі дзед із бабаю дыј паселі на прызьбе. Сядзяць яны ды завідуюць, як гуляюць на загуменьню суседнія дзеці. Ужо пачало цямнець, на небе заблыскалі зоркі, хацелі яны јсьці спаць, як вось бачаць: паказалася на небе вялікая ј ясная зорка. — Мо‘ гэта душачка мајго дзіцяці,—думае баба. Чуць яна гэта падумала, як тая зорка ј пакацілася па небе: коціцца ўсе бліжэј ды бліжэј і ўсе расьце. Вось яна ўжэ над самым сялом гарыць, бы капа сена. Спалохаліся людзі, а зорка трэснула над самым сялом на кускі, адно јіскры пасыпаліся на зямлю, і пагасла. Адна јіскра ўпала бабе да самых ног, бы чырвоны гарачы каменчык. Ля-

жыць ля прызбы каменчык, ясны, як зорка. Спалохаліся дзед із бабаю, а потым, як трохі ачухаліся, дык і кажуць у вадзін голас: „Мо' гэта Бог нам даў дзяцё?“ Узяла баба тыј камень, палажыла яго ў пялёнкі, і панесла ў хату. Толькі разьдзьмухала яна агонь ды засьвяціла лучыну, бача, ажно праўда: у пялёнках ляжыць не камень, а такі гожы хлапчук, што ня можна ј сказаць. Не нарадуюцца дзед із бабаю,—так і не лажыліся яны ўсю ноч. Расьце хлопчык, бы рыжок, расьце хлапчук ды сілы набіраецца. І скора ён стаў такі дужы, што яго ніводны најдужшы мужчына ня можа ўходаць. Вырас асілак, убраўся ў сілу і давај ён зьбірацца ў сьвет. Як ні ўпрашалі дзед із бабаю, каб ён не пакідаў іх на старасьці,—куды там.—Няма чаго мне тут із вамі сядзець ды куры заганяць. Я пајду шукаць не́прыяцелеў і ці сам загіну, ці не́прыяцелеў загублю. Няма чаго рабіць—прыгатавалі дзед із бабаю свајго сынка ў вялікаю дарогу і з плачам прапусьцілі яго за сяло. Тут яны разьвіталіся ј вярнуліся дамоў, бо далеј не маглі јці, — вельмі ўжэ былі старэнькія.

Ујшоў Асілак—так яго ўсі звалі—у цёмны лес ды так засьвістаў, што аж лісьце пасыпалася. Спужаліся птушкі, пахаваліся ў вецьце або ў лом. Спужаліся дзікія зьвяры, пахаваліся, хто куды мог. Жыло ў гэным лесе сем братоў, сем разбојнікаў. І ніхто ня сьмеў прајці або праехаці пераз тыј лес. Жылі яны там і нікога не баяліся. Пачулі разбојнікі тыј сьвіст і пајшлі проста на Асілка. Тым часам Асілак выјшаў на парасельку, наклаў агню, сядзіць сабе ды на ражэнчыку пячэ сала. Тут яго разбојнікі ј абступілі адусюль.

Якія вы людзі і што вам трэ‘? — пытаецца Асілак.—Хто ты такі, што пасьмеў прыјці ў наш лес?—пытае старшы разбојнік.—Хто я—пазнаеш, як памераесься за мною сілаю, а лес ня твој, а божы, Бог даў лес на патрэбу ўсім людзём.— Гэта наш лес; гэта нашая гаспадарка. Мы тут тубалцы з даўных часоў. — Вы разбојнікі. Вы разбоям запанавалі гэтым лесам. А я прыјшоў, каб адабраць у вас божаю пушчу і даць усім людзём.—Ого, які ты дужы! Давај пярвеј паходаемся, хто з нас дужшы.—Давај.— Узяў старшы разбојнік зялезнаю булаву ў дзесяць пудоў і стаў перад Асілкам. Асілак азірнуўся наўкола, бача — непадалечку стаіць вялізазны дуб, што ў трох не абняць. Ухапіў гэта Асілак тыј дуб дыј вырваў з карэньням. Абачылі тое разбојнікі, спалохаліся ј давај прасіцца, каб ён ня губіў іх.—Будзь у нас старшым і тады мы ўсім сьветам запануем.—Не—кажа Асілак,—ня дзеля таго я прыјшоў, каб сьветам панаваць, а на тое, каб аслабаніць сьвет ад паноў, бо ўсялякі чалавек сам сабе пан. А хто хоча быць панам над јіншымі людзьмі, тыј мој непрыяцель.— І давај тыя сем братоў, сем разбојнікаў прасіцца, каб Асілак узяў іх да сябе ў сябры.—Добра—кажа Асілак. І пајшлі яны разам.

Јідуць сабе яны ды јдуць ад аднаго сяла да другога. І ўсюды Асілак усе адно кажа, што ўсі людзі самі сабе панове, што ўсе Бог даў на патрэбу ўсім людзём. У яго гэт‘кія прыслоўјі былі. Ён яго заўжды казаў — Еж хлеб і людзём дај. І—жыві, спажывај ды людзёў ня ўжывај. Ведама, хто любе кусацца, таго ј другія кусаюць. І пачаў Асілак навучаць, каб людзі жылі ў згодзе ды ў ласца.—Тады—кажа — ніякае ліха зь јімі ня справіцца, бо згодная

грумада, бы адзін вялікі чалавек, вялікі асілак, дужшы за ўсіх асілкаў.

Пајшла тая прачутка па ўсім сьвеце. Спалохаліся панове і давај лавіць Асілка. Доўга яны шукалі яго ды ўсе не маглі знајці. Але вось тыя сем братоў, сем разбојнікаў захацелі самі быць панамі, змовіліся яны, каб выдаць Асілка. Панове рады, называюць разбојнікаў свајімі братамі, кланяюцца јім і даюць јім двары, многа грошаў і ўсялякага дабра. Давај гэта разбојнікі падмаўляць людзёў, каб яны выдалі бунтара-Асілка. Адных падмовілі, другіх застрашылі, а трэјціх падпајілі. Ведама, заўжды многа знојдзецца дурных людзёў, што яны гатовы самі ў вяроўку лезьці. Яны ј сказалі паном, дзе жыве Асілак. Набралі панове маскалёў і напалі на Асілка. А ведама маскаль, яму як загадаюць, дык ён і роднага бацьку зарэжа. Асілак тым часам нічога ня ведаў і лёг на супачынак. Тут маскалі напалі на яго, зьвязалі вяроўкамі і вядуць да паноў. Забралася шмат людзёў. Шкада јім Асілка, але няма чаго рабіць. Ня могуць адабраць у маскалёў добрага чалавека. Вядуць маскалі Асілка ў двор, а людзі цягнуцца ззаду. Мужыкі маўчаць, апусьціўшы галавы, а бабы плачуць ды божкаюць: „На каго-ж ты нас пакідаеш? Хто-ж нам скажа добрае слаўцо?“ Тым часам забралася паноў, што хоць гаць гаці ды па галавах хадзі. Бы ваўкі над здыхатој завылі, што Асілка злавілі. Сьмяюцца, жупяць*), рукі паціраюць ды якую прыдумаць кару выбіраюць. Адзін кажа—скуру із жывова задраць; другі кажа—ганталёў у цела назаганяць; трэјці кажа — павесіць за

*) гамоняць, гукаюць.

язык, каб увесь сьвет знаў, што пан, то ня мужык; чацьверты кажа—язык адрэзаць ды ногі перабіць, каб ня мог па сьвеце хадзіць, ня мог гаманіць ды людзёў вучыць.

Пакуль яны крычалі ды кару прыдумлялі, Асілак страпянуўся, вяроўкі парваў дыј да людзёў сказаў: „Браткі, калі-б паноў чорт узяў, то-б сьвет бяды ня маў, а без гарапашнікаў-мужыкоў ня было-б ні хлеба ні асьмакоў. А каб гэтае ліха зламаць, трэ' ўсім, як адзін чалавек стаяць; ня грызьціся праміж сабою, ды ад варагоў бараніцца гурбою“. Так сказаў Асілак і шчэз; толькі клубок агню з таго месца пакаціўся па зямлі. Спалохаліся паны ј маскалі; стаяць ды дрыжаць. Ачухаліся яны, азіраюцца, бы ваўкі ў ваўкаўні. А Асілак, кажуць, і дагэтуль па сьвеце гуляе ды людзёў навучае. Але ведама, мужыкі дурныя, праміж сабою грызуцца, перад панамі-варагàмі гнуцца, самі сябе за губы трымаюць і дабра ня маюць. Але пэўне хутка тое будзе, што кожын сам сабе панам будзе. Усі людзі будуць роўна гараваць, будуць роўна панаваць.

---

## БРАХНЯ.

Быў адзін такі пан, што што-б яму хто ні сказаў, дык ён усе кажа, што праўда, але. Хто яму ні хлусіў, ніхто ня можа так схлусіць, каб ён сказаў, што гэта няпраўда.

Вельмі любіў тыј пан слухаць казкі. Хлусіць яму хто якую бајку, а ён усе за кожным словам кажа: „праўда, але“. Захацелася таму пану пачуць такую казку, каб сказаць, што гэта няпраўда; але ніхто ня можа прыдумаць такое казкі. Абяцаў тыј пан даць жменю золата таму, хто скажа такую казку, каб пан не паверыў.

Знајшоўся адзін п'янчужка. Звалі яго Ахрэмам. Ён свае гаспадаркі ня маў, бо быў вельмі вялікі гультај і п'яніца. Пајшоў Ахрэм да пана казаці казкі. Доўга казаў Ахрэм пану ўсялякія бајкі, а пан усе кажа: „праўда, але“. Кажа Ахрэм,—іду я ды іду па вадзе, а рака шырокая, што ј берагоў не бачно, але вось выскачыў із вады мядзьведзь, задраў уверх хвост ды да мяне. Што тут рабіць!? Перш я схаваўся ў бабравіну, але ня мог там уседзіць, бо хтось наклаў на дне ракі агню і нарабіў такога курападыму, што дым вочы выядае, навет рыба пачала пырхаць ды чмыхаць носам. Вылез гэта я з бабравіны, а мядзьведзь да мяне... Вось я сунуў яму руку ў горла. Ён туды-сюды—толькі хвастом круце. Засунуў я руку далеј і ўхапіўся за хвост. Як ўбраў я за хвост, закруціў яго на руку ды як уперся, дык і вывярнуў медзьвядзя трыбухамі наверх. Толькі раве мядзьведзь,

а кусацца ня можа, бо зубы тырчаць на ўсі стараны.—Праўда, але,—кажа пан. — Пајшоў я далеј, аж бачу ўсьсела на пшчалу двананцаць медзьвядзёў. Я бегчы ды бегчы, ратаваці пшчалу. Бег зраньня аж да вечара. Тым часам медзьвядзі зьелі пшчалу, адно костачкі асталіся. Прыставіў я пшчаліныя косьці да хмаркі дыј палез на неба. Узьлез на неба, пабачыўся з бацькам свајім ды зь дзедам. Падпајілі яны мяне крыху, і не магу я најці астрогі, каб зьлезьці зь неба. Вось абачыў я кучу мякіны. Давај я зь мякіны віці вяроўку. Зьвіў вяроўку, прывязаў яе за неба і спушчаюся ўніз. Але вось ляціць матыль. Як махне крылом, вяроўка ј парвалася, а я паляцеў уніз дыј упаў у пекла.—Праўда, але,—кажа пан. Зірнуў я ў пекле, аж чэрці на панськім бацьку смалу возяць ды гадамі падганяюць.—Хлусіш, галгане! — крыкнуў пан. — Ня можа таго быць!—А калі пан ня верыш, дык паглядзі сам,—кажа Ахрэм. Заплаціў пан Ахрэму жменю золата дыј годзе казкі слухаць.

---



## ДЫ ШТО ГЭТА ЗА ПАЎСТАЛА...

Ды што гэта за паўстала,
Што на сьвеце праўды мала?
Топчуць праўду пад нагамі,
А няпраўда між панамі.
Стаіць праўда ды ў парозе,
А няпраўда за столікам.
Есьць праўда суху рыбу,
А няпраўда ашатрыну.
П'е праўда горка піва,
А няпраўда мёд і віно.

Гэтаю песьню запісаў я ў 1910 г. ў в. Војштавічы Валожынскага пав. (даўнеј Ашмянскага), Вішнеўскае вол. ад Целяжэвічанкі, ведамае пяюхі ў гэнај вёсцы. Запісаўшы, аддаў яе ў тым-жа годзе разам із јіншымі запісанымі (звыш сотні) песьнямі ў рэдакцыю „Нашае Нівы“, дзе ўсі яны загінулі. Цяпер я запісаў яе другі раз із памяці. Паводле зьместу відаць, што гэта песьня штучная, але лучыла ў народнаю гушчу, падабалася ёј і сталася песьнај народнај. Народ-жа дадаў да яе мэлёдыю. На жаль, мэлёдыя дагэтуль не запісана. Друкую гэтаю песьню як дзеля яе цікаўнага зьместу, так і дзеля таго, каб зьвярнуць увагу нашых зьбіральнікаў, што ёсьць яшчэ на сяле ладне вершаў беларускіх няведамых паэтаў, каторыя сталіся народнымі творамі. Усі яны павінны быць запісаны.

*Д-р Я. Станкевіч.*

ЗЬМЕСТ.



---

Казкі выбраныя ізь першага зборніку беларускіх казкаў А. К. Сержпутоўскага.





